Дзіцячая газетка

# Несцерка

Будзь разам з намі!

№2(45)

5 лютага 2003 года

Падпісны індэкс: 63672





# Цуды пад Новы год

**31 снежня**

Падняўся з ложка вельмі рана. Пачаў рыхтаваць падарункі сваім знаёмым і родным. Потым пачаў слухаць "Радыё Магілёў". У галаве верціцца шмат планаў па сустрэчы Новага года. Зазвінеў тэлефон, і мой сябар сказаў, што планы мяняюцца, і ён не можа ўзяць мяне з сабою. Настрой вельмі сапсаваўся. Прайшло некалькі хвілін, і па радыё я пачуў умовы цікавага конкурсу, пераможца якога атрымае цэлы блок марозіва. І я вырашыў паўдзельнічаць. І вось цуд: мне пашчасціла, я выйграў цэлы блок смачнага марозіва. Па тэлефоне мне распавялі, дзе і як забраць прыз. Уся мая сям'я вельмі радавалася за мяне. Так я сустрэў надыход Новага года. Потым на вуліцы пачаўся салют, і я са сваім сябрам пайшоў на ёлку.

**1 студзеня**

Першы новы дзень. Новыя мары і спадзяванні.

**2 студзеня**

Яшчэ адзін цуд. Я — пераможца гістарычнай віктарыны "Горад, у якім я жыву". Зноў іду атрымліваць падарунак ад "Радыё Магілёў".

Пачынаюцца Каляды, буду варажыць!

Напісаў на 12 картках свае жаданні і паклаў іх пад падушку. Раніцай, не расплюшчваючы вочы, дастаў наўзгад тры карткі. Жаданні, якія на іх напісаныя, павінны здзейсніцца ў гэтым годзе.

Спадзяюся, што Новы год прынясе шмат чаго цікавага.

***Сустракаў год казы Іван Літвінаў, г. Магілёў.***

# "Радыё Магілёў"



Упершыню я пабываў у студыі "Радыё Магілёў" 2 гады таму, калі атрымліваў прыз — білет у кінатэатр "Чырвоная зорка". Гэтую радыёстанцыю я слухаю ўжо 2,5 гады, калі купіў радыёпрыёмнік на грошы, атрыманыя за грыбы лісічкі, якія збіраў у сваёй вёсцы Сцюдзёнка. З гэтага дня ў маім жыцці ўсё змянілася. З'явілася шмат сяброў. Тады я марыў пабываць у студыі гэтага радыё. Праз некаторы час мая мара здзейснілася. Я перамог і заняў першае месца ў радыёвіктарыне Ігара Пушкіна "Горад, у якім я жыву". Мяне запрасілі прыняць удзел у прамым эфіры. Калі я сядзеў там, то мне не верылася, што ўсё гэта робіцца са мною. Вельмі хваляваўся, але, хто слухаў мяне па радыёпрыёмніку, казалі, што выступіў вельмі добра. Але на гэтым паходжанні ў студыю не закончыліся. Гэтым летам я апынуўся там зноў (праходзіў практыку са сваім класам). На гэты раз я быў у ролі вядучага. Па словах радыёвядучай Юліі Шупліцовай, я са сваімі аднакласнікамі вельмі добра выканалі справу.



Для чаго я ўсё гэта напісаў? Для таго, каб кожны з вас верыў у лепшае і з ахвотай удзельнічаў у розных конкурсах. Жадаю плёну.

***Іван Літвінаў, г. Магілёў.***

# Васкавыя персоны


Інквізітар.

Апошнім часам па ўсёй Беларусі вандруюць выставы васкавых фігур. Жадаючых на іх пабываць заўсёды шмат. І гэта зразумела, бо ідуць паглядзець на людзей, якія прымусілі гаварыць аб сабе амаль увесь свет. Але гаварыць можна па-рознаму...

У наш невялікі гарадок з далёкага Санкт-Пецярбургу прыехала выстава з крыху страшнаватай назвай "Сусветная гісторыя забойстваў". Жахі жахамі, але цікаўнасць перамагла.


Лёнька Панцялееў — вядомы па фільме "Месца сустрэчы змяніць нельга".

У зале цёмна. Падсвет зроблены вельмі прафесійна, таму такое ўражанне, што гэта не экспанаты, а сапраўды жывыя людзі. Крыху жудасна. Але ж я не адна, са мной мае сябры і дужа ветлівая супрацоўніца выставы. Пытанні з нас так і пасыпаліся. Па-першае, нам было цікава даведацца, чаму выстава мае такую назву. Экскурсавод нам таксама задала пытанне: "А ці ведаеце вы што-небудзь пра тых людзей, якія зараз перад вамі?" "Хто ж не ведае Сталіна, Берыю, Аль Капоне. Але чаму побач з імі Джон Ленан, амерыканскія салдаты, рускія князі ды іншыя?" — запыталіся мы. І вось што яна нам адказала: "Галоўная мэта выставы — нагадаць людзям, што ўсё зло робяць самі людзі. Але мы з вамі можам


Барыс і Глеб, якіх забілі па загаду старэйшага брата — Святаполка.

не дапусціць злое, своечасова спыніць тых людзей, якія думаюць, што ім усё дазволена. Галоўнае — самім не баяцца, смела выступаць супраць падману і несправядлівасці, любіць і паважліва адносіцца да ўсіх. Толькі тады не будзе салдат, якія жорстка забіваюць, забойцаў-маньякаў (ад рукі


Забойства Джона Ленана.

аднаго з іх і загінуў Джон Ленан), мафіёзі, і не з'яўяцца жудасныя лекары-фашысты. Ведайце гісторыю і вучыцеся адрозніваць добрае ад дрэннага".


Рускі воін.

Далей абмяркоўваліся больш тэхнічныя пытанні. Аказваецца, 8 розных майстроў працуюць над адной фігурай 2-3 гады. Кошт самай таннай фігуры ад 4 да 5 тысячаў даляраў. Вось такія фігуры і вандруюць па розных гарадах. А дарагія, коштам да 20000 даляраў, можна пабачыць толькі ў музеі Санкт-Пецярбурга. Гледзячы на гэтыя лікі, можна зразумець, якая гэта карпатлівая праца. Асабліва з прычоскамі. Толькі ўявіце сабе: кожную валасінку трэба ўторкнуць пінцэтам. І як можа быць шкада свайго часу, калі потым галаву трэба пагаліць. Чаму? Таму што прататып — лысы. А для тых, хто не ведае, адкрыю маленькую тайну: з воску зроблены толькі адкрытыя часткі цела. Усё, што пад вопраткай, часцей за ўсё дрэва. А вось вочы і зубы — гэта пратэзы. Такія ж выкарыстоўваюць у клініках і для людзей.


Чэкісты.


Амерыканскія салдаты. В'етнам...

Потым нам распавялі некалькі смешных выпадкаў. Наведвальнікі выставы, бывае, успрымаюць экспанаты за людзей, пачынаюць з імі размаўляць, штурхаць. Ці наадварот, думаючы, што гэта чалавек, не перашкаджаць. Як, напрыклад, таму фатографу. Мая сяброўка доўга стаяла пасярод залы, усё чакала, калі ж ён скончыць фатаграфаваць.

А яшчэ мы даведаліся, што самі супрацоўнікі такіх выстаў ніколі не называюць экспанаты фігурамі, а вельмі паважна — "персонамі". Нават існуе традыцыя. Калі выставу збіраюцца зноў кудынебудзь перавозіць, то фігуры разбіраюць на часткі. Дык вось, супрацоўнік падыходзіць да персоны і кажа: "Дазвольце зняць з Вас галаву ..."


Проста фатограф.

***Юлія Кажэўнікава, карэспандэнт газеты "Несцерка".***

# У Варшаву не за пакупкамі

*Працяг, пачатак у №1.*



## Матылі ў Палацы

Палац культуры і навукі ўзвышаецца над усім горадам. Разам са шпілем яго вышыня складае 234 метры. Палац з'яўляецца сімвалам і візітнай карткай Варшавы. Турысты любяць бываць тут, каб паглядзець панараму горада з назіральнай пляцоўкі на трыццатым паверсе.

У Палацы размяшчаюцца розныя ўстановы: кінатэатры і тэатры, рэстараны і крамы, офісы, Палац моладзі. У залах Палаца культуры праводзяцца розныя кірмашы і выставы...

Я трапіла на выставу матылёў.



Некалькі хвілінаў прыходзіла ў сябе. На вуліцы холадна, вецер, мокры снег, а тут моцнае святло, спякота, пах экзатычных кветак і ціхія пералівы птушыных спеваў. А колькі матылёў! Розныя: маленькія і вялікія, са сціплай расфарбоўкай і неверагодна прыгожай, і нават жывыя. Так, наведвальнікі гэтай выставы маюць магчымасць не толькі даведацца пра розныя віды матылёў, але і пабачыць, каму пашанцуе, як яны нараджаюцца. Для гэтага з Малайзіі, Коста-Рыкі, Філіпінаў, Мадагаскара прывозяць коканы, а задача супрацоўнікаў выставы — зрабіць усе ўмовы для жыцця матылёў, якія павінны нарадзіцца. Вось чаму так спякотна ў памяшканні: тэмпература больш за 30 градусаў, ды і вільготнасць высокая — каля 90%.

У прыродзе матылі кормяцца пладамі, якія ўжо не зусім свежыя. А тут на кавалачкі апельсінаў, манга, ківі, бананаў капаюць кропелькі піва, каб задаволіць іх кулінарны густ. Жывуць матылі не больш чатырох тыдняў, а некаторыя і зусім толькі суткі. Самы вялікі матыль у свеце — гэта Каралева Аляксандра, размах крылаў 30 см, месца жыхарства — астравы Папуа Новай Гвінеі, і зараз яму, на жаль, пагражае знішчэнне.

Амаль сем гадоў збіраліся экспанаты. Затое зараз ёсць чым ганарыцца. Пано, якое налічвае больш за 2000 матылёў, у 2004 годзе будзе ўнесена ў кнігу рэкордаў Гінеса. І хаця выстава прывезена са Злучаных Штатаў Амерыкі, але зрабілі яе польскія эмігранты і цяпер з задавальненнем знаёмяць з ёй сваіх землякоў.

## Дзіцячая прэса

Мяне, як рэдактара дзіцячай газеты, цікавіла пытанне: "Што чытаюць польскія дзеці?" Таму ў вольны час я наведвала рэдакцыі розных выданняў: ад маленькіх школьных, да вялікіх дзяржаўных.

Сустрэча першая. Школа імя Януша Корчака, выдатнага польскага педагога. Усе дзеці на



Працяг на ст. 5.

Пачатак на ст. 4.


Агнешка і Карол.

ўроках. Але дырэктар школы дазволіў мне паразмаўляць з шасцікласнікам, якога завуць Карол, і настаўніцай інфарматыкі Агнешкай, якія адказваюць за выданне газеты. "Bezludna wyspa" ("Бязлюдны востраў") — так называецца яна. Але, нягледзячы на назву, жыццё ў іх школе дужа актыўнае. Дзеці пішуць пра свае мерапрыемствы і захапленні, шмат вершаў, прапаноў і фотаздымкаў. Карол абяцаў напісаць і нам. Будзем чакаць.

Сустрэча другая. Рэдакцыя часопісу "Swierszczyk". Нават не ведаю, як перакласці. Калі па-руску, то "кузнечик", а па-беларуску "конік". Рознакаляровы, з вясёлымі малюнкамі, цікавымі казкамі і апавяданнямі, коміксамі, польскія дзеці з задавальненнем яго чытаюць. Падпісвацца на гэты часопіс стала ўжо добрай традыцыяй у Польшчы, бо першы яго нумар пабачыў свет ажно ў 1945 годзе.

Сустрэча трэцяя. Рэдакцыя самай вялікай газеты Польшчы — "Wyborcza". У яе не толькі самы вялікі наклад, але і штат супрацоўнікаў — каля 2000 чалавек. Гэта газета для дарослых, але кожны аўторак выходзіць дадатак для школьнікаў "Kujon Polski", што ў перакладзе азначае "Польскі выдатнік". Ён карыстаецца поспехам у старшакласнікаў. Бо ў ім заўсёды шмат карыснай інфармацыі: куды лепш паступаць, розныя матэрыялы да экзаменаў і алімпіяд, тэсты. У Польшчы ўжо некалькі год ідзе рэформа школы. І дзеці не застаюцца ў баку. Яны сваімі меркаваннямі і разважаннямі дапамагаюць дарослым вырашаць школьныя праблемы, якія асвятляе газета. А паколькі самым папулярным сродкам зносін стаў інтэрнэт, усе дыскусіі адбываюцца менавіта праз яго.


Атракцыёны.

## Чужыя захапленні

Увесь час я цікавілася, чым захапляюцца польскія дзеці? Тым жа, чым і вы, мае чытачы. У вольны час многія наведваюць розныя гурткі і клубы. Але нашым дзеткам пакуль што ёсць магчымасць займацца ў іх бясплатна. У Польшчы за тое, што вас вучаць шыць, вязаць, маляваць, іграць, спяваць, танчыць і г.д., трэба плаціць. Так што не губляйце дарэмна час і бягом за ведамі і ўменнямі!

У апошнія гады



Курсанты ў "Wyborcza".

стаў вельмі папулярным сямейны адпачынак. Напрыклад, у аквапарках. Ці яшчэ. У некаторых установах (біліятэкі, супермаркеты) працуюць дзіцячыя цэнтры. Вось пайшлі бацькі вучыцца або па крамах, а дзетак адправілі гуляць пад даглядам дарослых. А забавы там розныя: можна з надуўных горак пакатацца, а можна і альпінізму павучыцца. Каму што падабаецца.

## Словы ўдзячнасці

Не было б гэтай паездкі, каб не "Фонд Салідарнасці Польска-Чэшска-Славацкай". Вялікі дзякуй за карысныя і цікавыя камп'ютэрныя курсы і магчымасць пазнаёміцца з Варшавай.

*Ірына Каралькова.*

**ЯНІС БАЛТВІЛКС**



*Яніс Балтвілкс — сучасны латышскі пісьменнік, творы якога любіць дзятва краіны-суседкі Беларусі — Латвіі. Па-беларуску ягоныя апавяданні, у якіх столькі любові і захаплення прыродай, друкаваліся ў часопісах "Бярозка" і "Лесавік".*

*"Несцерка" прадстаўляе вам невялічкую нізку зімовых мініяцюр Белага Вайка. Так перакладаецца на нашу мову прозвішча пісьменніка.*

# ПАЧАСТУНАК НА СНЕЗЕ

Па сцежцы праз заснежаныя Раўдскія лясы мы дабіраемся ў Калнаёс. Тут, у сваім доміку, даследчык птушак Гінтс частуе нас гарбатай, а потым ідзе па сваіх справах. Мае спадарожніцы Занда і Лында, якія, здавалася, толькі што падалі са стомы, раптам хапаюць свае лыжы і ў лес. Я застаюся ў доміку сам. Саджуся каля акна і гляджу на карціны птушынага жыцця.

У садзе зладжаны даволі вялікі столік з хлебнымі крошкамі, тварагом, варанымі бульбінамі. Чарада сінічак жывіцца на ім. Налічваю шэсць ці сем вялікіх сінічак, тры зялёных сінічкі. Яшчэ падляцела шэрая сінічка. Тут жа на століку пачынае ласавацца чорны лясны шпак. Балюе, ажно стракаціць!

З галін бліжэйшай ліпы пасыпаўся снег. З лесу з'явілася сойка. Калі яна налятае на столік, поўны пачастункаў, сінічкі кідаюцца на яблыню, дзе на нітачках падвешана таксама нешта ядомае.

Сойка хоча вытурыць і лясного шпака. Чаго гэта ён блытаецца пад нагамі!

Шпак адступае на самы крайчык стала, і ані кроку назад! Што можна цяпер знайсці ў глыбокім снезе? Дзе яму здабыць ежы? Да гэтых вісячых падарункаў на галінах яблыні яму не дацягнуцца!

Сойка яшчэ раз спрабуе напалохаць шпака. А той не кранаецца з месца.

І што зробіш такому, які не баіцца... Ну, добра, добра, сойка гэтым разам пацерпіць гэтага чорнага. Паямо разам.

# РЫЖСКІЯ ВЕРАБ'І

Холадна. Людзі ідуць па вуліцах Рыгі, хаваючы галовы ў паднятыя каўняры. Галубы надзьмуліся. Шукаюць, дзе б схавацца, тупаюць па карнізах, прыціскаюцца да сцен будынкаў. Птушкам цяпер цяжка пратрымацца!

Заходжу на Цэнтральны рынак, у Малочны павільён. У шырокай прасторы павільёна скрозь галасы гандляроў гучыць звонкае цвырканне. Глянь, куды схавалася ад сцюжы вясёлая вераб'іная чарада!

Тут упала трошкі тварагу. Там праліліся вяршкі. Да таго ж нейкая гандлярка накрышыла хлеба. Птушкі частуюцца на сталах і не бяда!

Загадчык рынку папярэджвае пакупнікоў і прадаўцоў, што павільён хутка зачыняецца, бо настае вечар.

Выходзячы, я яшчэ раз аглядаюся на вераб'ёў. Не, гэтыя наведвальнікі не пойдуць адсюль, пакуль не настане вясна!



Працяг на ст. 7.

Пачатак на ст. 6.

## ВОЗЕРА ЎЗІМКУ

Да самага ўскрайку ім жыстага густога лесу — роўнядзь у гурбах снегу. Час ад часу суха шамаціць трыснёг. Высока ў небе моўчкі лунае самотны крук...

Белы, бясконцы спакой.

## ЗНАЁМАЯ



На ўзбочыне сцяжынкі ў парку сустракаю варону з трыма пёркамі на правым крыле. Калі нам давядзецца яшчэ раз спаткацца, я, напэўна, пазнаю яе.

А вось ці пазнае мяне — таго, каго яна сёння павітала ціхім "кра-ра"?

***Пераклаў з латышскай мовы Валерый Буйвал.***

**ДЖАНІ РАДАРЫ**

# МЫШ, ЯКАЯ ЕЛА КАТОЎ

Старая бібліятэчная мыш пайшла ў госці да сваякоў, якія жылі на паддашку і мала дзе былі.

— Вы зусім не ведаеце, што робіцца на свеце, — казала яна сваім затурканым родзічам. — Мабыць, і чытаць не ўмееце.

— А ты ж ведаеш усё на свеце, — уздыхалі яны.

— Ну, напрыклад, вы елі калі-небудзь ката?

— Эх, гэта ў вас там. А ў нас каты ядуць мышэй.

— Таму што вы дурныя. А я ўжо з'ела не аднаго і клянуся вам, што яны нават не мяўкнулі.

— А які кот на густ?

— Мне здалося, тхнуў паперай і чарніламі. Але гэта нічога. Вы калі-небудзь елі сабаку?

— А ні-ні, крый Божа.

— А я з'ела аднаго толькі ўчора. Ваўкадава. Меў такія клыкі... Добра, пакуль я яго ела, ён нават не забрахаў.

— Які ён быў на густ?

— Як папера, папера. А насарога елі?

— Мы — не ты. Мы насарога і не бачылі ніколі. Ён падобны на галандскі або на плаўлены сыр?

— Ён падобны, напэўна, на насарога. А калі-небудзь вы елі слана, манаха, прынцэсу, калядную ялінку?

У гэты момант кот, які слухаў размову, седзячы за куфрам, выскачыў адтуль з пагрозлівым мяўканнем. То быў сапраўдны кот з мяса і касцей, з вусамі і кіпцюрамі. Мышаняты кінуліся хто-куды, толькі бібліятэчная мыш застыла ад нечаканасці на месцы з паднятымі лапкамі, як маленькі помнік. Кот схапіў яе і пачаў гуляцца.

— Гэта ты, тая мыш, што есць катоў?

— Я, Ваша светласць... Вы павінны разумець... Я ж заўсёды ў бібліятэцы...

— Разумею, разумею. Ты ясі іх на малюнках, што ў кніжках.

— Час ад часу, і толькі ў інтарэсах самаадукацыі.

— Ясна. Я таксама шаную літаратуру. Але не здаецца табе, што трэба павучыцца трошкі і на практыцы? Ты зразумела, што не ўсе каты папяровыя і не ўсе насарогі даюць раздзерці сябе мышам?



На шчасце беднай палоннай кот на хвіліну адвярнуўся, убачыўшы павука, які бег па падлозе. Бібліятэчная мыш у два прыжкі дабегла да сваіх кніг, а кот павінен быў задаволіцца на вячэру павуком.

***Пераклаў з італьянскай мовы Валерый Буйвал.***

 

# Фільм! Фільм! Фільм!

 

Казкі пра Гары Потара чытае ўся планета. Відэакасеты і дыскі гуляюць па руках. Адна хваля прайшла — "Філасофскі камень". Зараз усе ў чаканні другой хвалі, мацнейшай, — "Таемны пакой".

А мы выконваем вашы шматлікія заяўкі...

## Дэніэль Рэдкліф



Дэніэль нарадзіўся 31 ліпеня 1989 года ў Англіі. Ужо ў пяцігадовым узросце хлопчык праявіў цікавасць да прафесіі акцёра, але спачатку бацькі працівіліся яго захапленню. У канцы канцоў яны здаліся, і маці нават дапамагла сыну адправіць фотаздымак на Бі-Бі-Сі, дзе ішла падрыхтоўка да здымак новай экранізацыі "Дэвіда Каперфільда" Чарльза Дзікенса. У выніку Рэдкліф атрымаў ролю Каперфільда ў дзіцячыя гады. Хутка юны акцёр ужо здымаўся ў шпіёнскай камедыі "Кравец з Панамы".

Наступная роля Дэніэла Рэдкліфа прынесла яму сусветную вядомасць. Зразумела, што размова ідзе аб першай частцы экранізацыі казак Дж.К. Роўлінг аб прыгодах Гары Потара. "Гары Потар і філасофскі камень" здабыў любоў мільёнаў дзяцей, сам акцёр атрымаў за ролю ў гэтым фільме "Узнагароду Джэймса Карэраса" як "Лепшы юны талент", а таксама некалькі іншых узнагарод і намінацый на ўзнагароды.

У сваіх шматлікіх інтэрв'ю Рэдкліф распавядаў, што ўпершыню імкнуўся прачытаць кнігу "Гары Потар і філасофскі камень" у васьмігадовым узросце, але не змог тады яе закончыць, а вось калі быў абраны на ролю, тады ўжо прыйшлося гэта зрабіць.

Потым хлопчык працягнуў чытанне раманаў Дж.К. Роўлінг, і зараз "Гары Потар і таемны пакой" — яго самая любімая кніга. За ролю ў першай частцы Дэніэлю заплацілі 110 тысячаў $, а вось ганарар за другую частку — 3 мільёны $. Юная зорка вядома і як вялікі жартаўнік. Так, напрыклад, ён узяў мабільны тэлефон свайго партнёра Робі Калтрэйна, пасля чаго ўсе паведамленні хлопец атрымлівае на турэцкай мове.

## Цікавыя факты аб фільме

Англійская пісьменніца Джоан Роўлінг, аўтарка чатырох кніг пра Гары Потара, перадала ў аўкцыённы дом Сотбі аркуш, на якім запісаны 93 словы з пятага, пакуль што не надрукаванага рамана. Арганізатары аўкцыёну лічаць, што кошт за гэты лот можа дайсці да 9 з паловай тысячаў даляраў. Гэта значыць, Роўлінг атрымае па сто даляраў за кожнае слова. Такога ганарару ніводнаму пісьменніку яшчэ не плацілі.

*"Warner Bros." збіраецца зняць як мінімум чатыры стужкі пра Гары Потара па колькасці ўжо надрукаваных кніг Дж.К. Роўлінг. Пяты раман аб юным чарадзеі чакаецца ў чэрвені 2003 года. Усяго аўтарка задумала скласці сем кніг.*

У Ізраілі выпусцілі манету з выявай Гары Потара. Яе кошт — 160 шэкеляў (крыху болей за 35,5 $).

*Пад час здымак "Гары Потара і таемнага пакою" выявілася эпідэмія сярод юных артыстаў. У іх былі выяўленыя вошы.*

*Рэжысёр Крыс Каламбус папярэдзіў бацькоў, што новы фільм можа аказацца дужа страшэнным для дзяцей. Асабліва яго насцярожвае сцэна, у якой Гары і Рон Уізлі падвяргаюцца нападу гіганцкіх павукоў. Крыс Каламбус лічыць, што перад праглядам стужкі бацькі павінны ўсё абмеркаваць з дзецьмі.*

Квіткі на першыя сеансы былі распраданыя ў Англіі яшчэ за месяц да пачатку дэманстрацыі фільма ў кінатэатрах.



*У "Таемным пакоі" збіралася з'явіцца актрыса Ніколь Кідман, каб уразіць сваіх дзяцей Ізабэлу і Конара. Кідман заявіла: "Калі я здымуся ў фільме, то стану проста супермамай!" Але, калі верыць інфармацыі, актрысе не давялося стаць супермамай.*

Бюджэт фільма складае 100 мільёнаў $!

***Па старонках Internet.***

Заснавальнік і рэдактар — Ірына Каралькова.
Выканаўчы рэдактар — Ірына Кальчэўская.
Кампутарны дызайн — Алесь Іскроў.
Карэктар — Алена Белкіна.

Газета зарэгістравана ў Дзяржкамітэце РБ па друку 14.09.2000 г. **Пасведчанне №1528.**

Газета надрукавана ў абласной друкарні імя Спірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70.
Замова 20. Наклад 1300 асобнікаў. Падпісана да друку 04. 02. 2003г. а 17.00.

**Адрас рэдакцыі:**
213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, вул. Цыялкоўскага, 23
Тэл. 8-(02233)-5-09-59
E-mail: nescerka@hotbox.ru